# Тыднёвік Магілёўскі




№ 13 (54) 1 красавіка 1999 г. Кошт свабодны


## СПАТКАНЬНЕ З УВАСКРОСЛЫМ

### *Вялікдзень. Магілёў 1999 г.*

Уваскрос! Жыве! Так урачыста абвяшчаюць велікодныя званы. Можна ўцекчы далёка, каб ня чуць «алелюя» званоў, але ўсюды нас дагоніць праўда, што Хрыста нельга забіць, нельга закрыць у магіле, хаця б і найвялікшым камянём, ня можна яго пазбавіцца.

Нядзельны ранак абвясьціў усяму сьвету, што Ісус жыве. Спраўдзіліся запаветы Ісуса, што ўваскрэсьне ў трэці дзень. Хрыстос жыве, і так як перад укрыжаваньнем, так і зараз выходзіць на спатканьне з чалавекам бедным і плачучым, смутным і прыгнечаным, застрашаным і пагарджаным, чалавекам, пагружаным у безнадзейнасьць. Хапіла аднаго слова, каб высахлі сьлёзы і спыніўся плач. Хапіла – «Супакой Вам» – каб замест боязі ў сэрцы вучняў уступіла адвага і радасьць.

Цяжка бывае нам паверыць ва Ўваскрашэньне, бо цяжка нам паверыць – што можа і павінна перамагчы справядлівасьць, што павінна перамагчы каханьне – і ў нас і навокал нас. Толькі не забываем, што справядлівасьць і каханьне перамагаюць праз Крыж!

Няма Ўваскрашэньня безь Вялікай Пятніцы, няма хвалы без цяжкасьцяў і цярпеньня. Таму тыя ўсе, для каго кожны дзень Вялікая Пятніца, для якіх сёньняшнія дні – час павольнага скону, хай акрыляюць сваю надзею, бо Хрыстос уваскрос.

Насуперак усялякім цяжкасьцям, насуперак праблемам – верым. Верым, што Гаспадар дасьць сілу свайму народу, што Гаспадар дасьць свайму народу блаславенства свайго сына. І з радасьцяй засьпяваем пасхальны гімн «Вясёлы дзень для нас настаў!»

Хрыстос Уваскрос!




*Зь вялікай любоўю ў сэрцы да кожнага з вас і дарам малітвы ксёндз УЛАДЗІСЛАЎ БЛІН*

## РЭЙТЫНГ

*ПАДЗЕЯЎ ЗА САКАВІК ПАВОДЛЕ «ТМ»*

*СТАНОЎЧЫЯ ПАДЗЕІ*

*– Агульная Заява дэмакратычных партыяў сумесна з былымі і дзеючым сьпікерамі Вярхоўнага Савета Беларусі аб недапушчальнасьці вяртаньня расейскай ядзернай зброі ў краіну, а таксама Зварот БНФ «Адраджэньне» да ўрадаў ЗША і Вялікай Брытаніі з заклікам пацьвердзіць гарантыі бязьядзернага статусу, бясьпекі й сувэрэнітэту Беларусі, якія яны разам з Расеяй далі ў 1994 годзе*

* * *

*– Зацьверджаньне Цэнтрвыбаркамам дзьвюх кандыдатаў у прэзыдэнты Беларусі на выбарах 16 траўня 1999 года – Міхаіла Чыгіра і Зянона Пазьняка, у падтрымку вылучэньня якіх былі сабраныя прадугледжаныя законам па 100 тысячаў подпісаў грамадзянаў*

* * *

*– Актыўная дзейнасьць магілёўскага Праваабарончага цэнтра па абароне палітычных і грамадзянскіх правоў чалавека ва ўсіх выпадках незаконнага перасьледу грамадзянаў і арганізацыяў*

* * *

*АДМОЎНЫЯ ПАДЗЕІ*

*– Арышты й запалохваньні актывістаў выбарчай прэзыдэнцкай кампаніі*

* * *

*– Гатовасьць кіраўніцтва краіны садзейнічаць плянам маскоўскіх «ястрабаў» па вяртаньні расейскай ядзернай зброі ў Беларусь і намер распачаць пастаўку звычайных узбраеньняў рэжыму Мілошавіча*

* * *

*– Згода некаторых асобаў, раней не дыскрэдытаваных супрацоўніцтвам зь цяперашняй уладай, на ўдзел у недэмакратычных мясцовых выбарах у якасьці кандыдатаў у дэпутаты*



РЭПЛІКА «ТМ»

## КРОК ДА ДЭМАКРАТЫІ ЦІ – АД ЯЕ?..

Такое ўражаньне, што мясцовыя выбары цікавяць толькі спадара Віка – кіраўніка місіі АБСЭ ў Беларусі. Ва ўсялякім выпадку яны не цікавяць практычна ні адну палітычную партыю, акрамя камуністычных (іх у нас ажно дзьве) і некалькіх экзатычных.

Мала турбуе «народнае волевыяўленьне» нават ініцыятара выбараў – уладу. Ды і зь якой нагоды клапаціцца: ва ўсіх акругах – па аднаму «праверанаму» кандыдату, выбары пачаліся за тыдзень да прызначанага часу, ніякіх парушэньняў не чакаецца, бо ўсё, што можна, было парушана на заканадаўчым узроўні.

Адное і застаецца: уладзе – канчаткова «пакласьці ў кішэню» мясцовых дэпутатаў, а сп. Віку – паставіць «птушачку» ў сваім «шматгаліновым пляне прасоўваньня дэмакратыі ў Беларусь».

Што пры гэтым рабіць нам? Сьвяткаваць, пакуль ёсьць яшчэ магчымасьць, каталіцкі Вялікдзень і праваслаўную Вярбовую нядзелю, якія супалі са «сьвятам дэмакратыі».




З надыходзячымі вас, дарагія чытачы, сьветлымі днямі Хрыстовага календару.

*Рэдакцыя «ТМ»*

